07/1230

# БЕЛАРУСЬ

ШТАДЗЕННАЯ ПОЛІТЫЧНА-ЭКОНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ГАЗЭТА.

ГОД ВЫДАНЬНЯ І.
Падпіска на 1 м-ц: з перасыл. 15 р. бeз перас. 12 р.
АБВЕСТКІ: на 4-й страніцы прымаюцца ва усіх мовах па 2 мк. за радок пэтыту.
Газэта выходзіць штодня, апроч дзен пасьпесьвяточных.
Рэдакцыя і Кантора: Менск, Міцкевічава вул., Беларускі Дом (б. Юбілейны).
Рэдактар прымае ад 12—1 гадз. Кантора адчыне- на ад 9 да 2 гад. і ад 5 да 7 гад.
Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны.
Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі.
Рукапісы назад не выдаюцца.
ЦАНА 1 МАРК.

№ 42 (69). Менск, Чацьвер 11 сьнежня 1919 г. № 42 (69).

## За цэласьць Бацькаушчыны.

Пад той час, як паміж беларускімі партыямі няма згоды аб тым, чы Беларуская Народная Рэспубліка мае себраваць з Польшчай, чы з новай Расіяй, — можна сьмела сказаць, што усе беларускіе політычные партыі, групы і паадзінокіе дзеячы згодна зыходзяцца на тым, што Беларусь павінна астацца *непадзельнай*. І у борцы за цэласьць і непадзельнасьць Беларусі злучаюцца у гэты момэнт усе сьвядомые беларускіе сілы.

Зусім натуральна, што пры гэтым узьнімаецца вельмі важнае пытаньне, якой дарогай трэба ісьці, каб ня даць парэзаць нашу Бацькаушчыну на кускі, ня даць зьнішчыць Беларусь, як асобную старонку.

Абмяркоуваючы гэтае пытаньне з усіх бакоу, трэба адзначыць вось што.

На Мірнай Конфэрэнцыі у Парыжы, дый прад усім, сьветам беларускае пытаньне пастаулено на *дзяржауным грунце*. Беларусь вуснамі Усебеларускага Зьезду 1917 г. і Рады Рэспублікі абвясьціла сябе незалежнай дзяржавай і як такая выступіла на міжнародную арэну. І як на такую глядзіць на яе усенькі сьвет. Беларуская дэлегацыя у Парыжы выступае прынімаецца выразна, як дэлегацыя Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пакуль Беларусь лічылася часткай Расійскай дзяржавы, датуль урад апошняй меу формальнае права распараджацца Беларускай зямлей, як сам хацеу. Найлепшы доказ гэтага становіць як абяцанка старога царскага ураду „падараваць“ Польшчы чатыры беларускіе паветы (Аугустоускі, Сакольскі, Беластоцкі і Бельскі), так і аддача савецкім урадам на міры у Бярэсьці Віленшчыны, Горадзеншчыны Літве і дзесяцех палудзенных паветау Украіне. Такое-ж формальнае права кроіць і дзяліць Беларусь прыналежало-бы Польшчы, *калі-б наша старонка ня лічылася-бы незалежнай дзяржавай* і папала пад польскую уладу.

Урэшці нельга забываць яшчэ аднэй акалічнасьці. Як вядома, наш народ разьдзелены на дзьве часткі рэлігіяй. З гэтым зьвязана цягаценьне каталікоу да Польшчы, праваслауных — да Маскоушчыны, як да аднаверцау. На гэтым будуюць сваю захватную політыку як польскіе, так і маскоускіе анэксыяністы. І толькі ідэя Беларускай дзяржавы, у каторай Беларускі народ быу-бы гаспадаром, можа крэпка зьвязаць абедзьве рэлігійные групы—каталікоу і праваслауных, бо і адным і другім дзяржауная незалежнасьць Бацькаушчыны дае больш волі і шчасьця.

З усяго сказанага ясна, што дзеле абароны Беларусі ад разьдзелу перад намі есьць толькі адна дарога: *цьверда стаяць на грунце нашай дзяржаунасьці*. З гэтай дарогі беларусы не павінны, ня маюць права зыйсьці ні на адзін момэнт, бо у той самы момэнт нашы суседзі шыбка змовяцца на нашу згубу: парвуць нашу зямлю на кусочкі. А гэным „кусочкам“ цяжка ужо будзе бараніцца ад дэнацыяналізацыі, ад зьніштажэньня нашага імя, калі такую варожую нам работу зразу навядуць некалькі падзяліушых нас дзяржау...

Беларусь ня можа зыйсьці з дзяржаунага шляху. Яна можа шукаць апоры у суседзяу хаця-бы цаной дзяржаунага саюзу з тым ці іншым з-паміж іх. Але і робячы саюз, падпісываючы тые ці іншые умовы Беларусь павінна рабіць гэта павэдле вольнай волі сваей, павінна выступаць як непадзельная сувэрэнная дзяржава, урад каторай мае права прамауляць як ад імя канцавых заходніх, так і найдалейшых усходніх зямель Беларускіх, незалежна ад таго, ці на іх пануе польская, ці бальшавіцкая окупацыя.

## Плебісцыт на Беларусі.

**Не рабі другому таго, чаго сабе ня хочаш.**

Гэты сьвяты афорызм павінен праводзіцца у жыцьце ня толькі у адносінах паміж асобнымі людзьмі, але і у жыцьці народау. Адносіны паміж народамі будуць тагды добрымі, калі яны будуць пабудованы на гэтым моральным грунце, і ні водзін народ ня будзе рабіць другому таго, чаго сабе ня хоча. Разглядаючы адносіны Польшчы да Беларусі, мы зауважваем, што Польшча ня лічыць патрэбным трымацца гэтага моральнага прынцыпу.

Яна не хацела, каб плебісцыт адбывауся у Сылезіі, бо там культурная перавага і ваенная сіла былі на старане немцау. Мы ведаем, якіе непарадкі падашлі там у чаканьні гэтага плебісцыту. І гэтые непарадкі мелі мэтаю зьвярнуць увагу Антанты на Сылезію, каб яна хутчэй прыслала свае войскі, і пад іх абаронаю плебісцыт адбыуся на карысьць Польшчы.

Але у нас на Беларусі Польшча робіць тое, чаго яна не хацела для сябе у Сылезіі. На Беларусі Польшча лічыць патрэбным правясьці плебісцыт, хаця-ж гэты плебісцыц ня можа выявіць волі народу, бо ен будзе *рабіцца польскаю уладаю*,

Мы бачылі, што пры урадзе эс-эра Керэнскага усе выглядало так, як бы усе былі эсэрамі. Пры бальшавікох дэкорацыя перамянілася, як бы усе парабіліся бальшавікамі, а эс-эрау ніколі тут ня было. Пры палякох будуць напэуна галасаваць за палякоу, бо усялякіе „Стражы Крэсовые“ маюць вялікіе грошы і ужо дауно вядуць сыстэматычную агітацыю сярод беларусау за прылучэньне да Польшчы. Беларусы-ж як ня маючые свае дзяржавы і грошай, *трыманые па турмах*, не маглі павясьці шырэйшай агітацыі. Навет калі-б агітацыя для беларусау была зусім вольная і на яе былі адпушчаны вялікіе грошы, то за 90 дзен ужо нічога зрабіць ня можна.

І вось прыпусьцім, што плебісцыт на Беларусі пройдзе на карысьць Польшчы, і большасьць выкажацца за прылучэньне да Польшчы. Што-ж тагды астанецца рабіць беларускай інтэлігэнцыі. Яна і цяпер бяз хлеба сядзіць, бо палякі фактычна не прызнаюць беларускай мовы у сваіх урадах на Беларусі і навет у школах. Пасьля памыснага для сябе плебісцыту Польшча і зусім перастане лічыцца з беларусамі. Беларуская інтэлігэнцыя да гэтага часу была прыхільнаю да Польшчы.

Яна моральна шмат памагла вызваленьню Польшчы. З 1905-га году многіе беларусы, служыушые у Польшчы, як рускіе чыноунікі, пачалі пераводзіцца у родную старонку у тым пракананьні, што кожны з іх можа быць больш карысным сярод сваіх.

Цяпер, калі яна і на сваей зямлі ня знойдзе сабе працы, ей астанецца толькі перайсьці на службу у Маскоушчыну і там яна зробіць, і з большым паваджэньнем, тое, што зрабілі свайго часу баяры і князі, перайшоушые на службу у Масковію. Работа іх будзе рабіцца людзьмі, вышаушымі з народу і маючымі карэньня у ем.

Прыпусьцім далей, што часьць беларусау выкажацца за прылучэньне да Польшчы, а другая за прылучэньне да Расіі, і Беларусь на гэтай аснове разарвецца на дзьве часьці. Але рух беларускі ад гэтага не загіне.

Ідэя незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі ужо прызнаецца усею беларускаю інтэлігэнцыяю, якой бы культуры яна ні была—польскай ці рускай.

А інтэлігэнцыя гэта есьць мозг народу, гэта орган яго сьвядомасьці.

Ня удасца задушыць Беларусі, як не удалося задушыць Польшчы.

Мы пытаем эндэкау, што ім лепей мець пад сваім бокам дужую і варожую Расію, маючую прэтэнзію і на Вільню і на Горадзен, і на Холмшчыну і на Галічыну, ці прыхільную Беларусь, уладаючаю сваімі местамі Вільняю і Горадням?.

Д.

## АПОШНІЕ НАВІНЫ.

### Протэст Найвышэйшай рады проці Нямеччыны.

Найвышэйшая рада выслала да нямецкага ураду ноту з протэстам проці нямецкіх збраеньняу, якіе вядуцца незважаючы на вэрсальскі трактат.

### Перагаворы між бальшавікамі і балтыцкімі дзяржавамі.

ВЕНА 8—XII. Мірные перагаворы пачаліся у Пскове. Працяг гэтых перагаворау адбудзецца у Дорпаце.

З Штокгольму паведамляюць, што савецкі урад павядаміу эстонскі урад, што савецкіе дэлегаты прыбудуць гэтымі днямі у Дорпат і адразу пачнуць мірные перагаворы з прыбалтыцкімі рэспублікамі.

### Мір за усялякі кошт.

Ч. П. Б. паведамляе з Капэнгагэну, што бальшавіцкі камісар Літвінау заявіу, што савецкі урад згодзіцца на концэсіі проці чужых

## На Украіне.

### Вайна Украіны з Дэнікіным.

ВЕНА, 6-XII. Стараньнем Начальнай Каманды украінскай арміі атамана Петлюры удалося устанавіць роунавагу на проці дэнікінскім фронце. Часовы разрыу з ворагам, што было прычынай адходу з Камянца украінскіх войск, дало магчымасьць атаману Петлюры сабраць свае войскі у аколіцах Бэрдычава ды ад‘зыскаць поле для новых наступленьняу ды ваенных опэрацый проці Дэнікіна. У гэтых новых змаганьнях вызначыліся найлепей галіцкіе січовые стралкі пад камандай атамана Канавальца. Бэрдычау і Казацін, два важные чыгуначные вузлы, занялі войскі Петлюры. Здабыцьце Казаціна дае магчымасьць войскам Петлюры навязаць простае злучэньне з опэруючымі каля Кіева паустанчымі войскамі атамана Зяленага.

### Бітвы на Украіне.

Бальшавіцкі комунікат паведамляе аб бітвах з Дэнікіным за Фастау і Козелец. У Харкаушчыне чырвоные войскі аддалены у 10 верстах ад места Сумы. Урадовая Савецкая адозва заклікае да паходу у Хэрсонь і Таганрог. Савецкі урад спадзяецца, што армія Дэнікіна будзе у скорым часе разьбіта зусім.

